КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Яны для ўлады слугі з-пад пугі і без пугі

У Маладзечне суд на 810 рублёў аштрафаваў Аркадзя Жызнеўскага за тое, што ён, даючы на вуліцы інтэрв'ю вядомаму блогеру, паскардзіўся: «У горадзе няма класаў з беларускай мовай навучання». Паводле пастановы суда, ён «падчас мерапрыемства публічна абмяркоўваў умовы жыцця і стаўленне да дзейснай улады».

Што мова наша ў занядпадзе,
Вядома ўсім і з даўніх пор.
І я не раз за гэта ўладзе
Выказваў ганьбу і дакор.
Аднак, на жаль, мае папрокі –
Нібыта пугай па вадзе:
Ці ж робіць захады і крокі
Яна, каб рады даць бядзе?
Ёсць у яе другая мэта,
І ўсё якраз наадварот:
Таму, хто ўзгадвае пра гэта,
Як кажуць, затыкае рот.
Пра стан гаротны роднай мовы
Сказаў дзядок у мікрафон:
Сваіх дзяцей вучыць гатовы
У класе беларускім ён,
Ды ў горадзе ў ніводнай школе
Такой магчымасці няма.
Уладзе праўда вочы коле,
Бо мову збэсціла сама.
Таму яна знайшла падставу,
Каб зацягнуць «злачынца» ў суд,
А там ужо прышылі справу.
(Было б інакш – адбыўся б цуд.)
А ў чым «зламыснік» вінаваты?
Абмяркаваў жыццёвы лад
Там, дзе людзей было багата
І дзе «пісак» задужа шмат;
Яшчэ сказаў ён пры народзе,
Што наша ўлада неўспадоб.
(Такія словы сёння ў модзе,
Хоць хто-ніхто і моршчыць лоб.)
Суддзя, напэўна, думаў гэтак:
«Прыкусіш свой язык, калі,
Забраўшы ад няшчасных дзетак,
Дзяржаве аддасі рублі.
Ты недаволены? Дык на кухні
Уласнай жонцы гавары!
Хай нават твой язык апухне,
І закіпіць усё ўнутры…»
Хіба ж суддзя няздара-невук,
Хіба ж не разумее ён
(Усё ж юрфак агораў неяк),
Што не парушаны закон?
Суддзя і сам, зусім магчыма,
Каб згледзеў мітынг ці пікет,
Спыніўся б, не прайшоў бы міма.
Ды так рабіць яму не след!
На жаль, ён не слуга закона,
А ўлады сённяшняй слуга,
Таму лісліва, утрапёна
Ёй дагаджае як мага,
Бярэ, так мовіць бы, за грудзі
І «злыдню» кажа:
– Замаўчы!
Але ж хіба ў нас толькі суддзі –
Лісліўвыя паслугачы?
То не сакрэт, што педагогі
У нас амаль што жабракі.
Заробак іх мізэрны, убогі,
Ва ўсякім разе не такі,
Як у дзялка або чынушы,
Хоць ім, вядома, не раўня:
Змагаюцца за нашы душы –
Дзяцей выхоўваюць штодня.
Здавалася б, яны павінны
Жадаць найболей перамен,
Каб ажывіць «пейзаж» краіны,
Каб не пакрыў краіну тлен.
Аднак шчырую педагогі,
Як выбараў прыйшла пара,
Для «элегантнай перамогі»
Нязменнага правадыра:
Яны ў камісіі, на ўчастку
"Як трэба" лічаць галасы,
Зноў заганяюць нас у пастку –
Да той жа «чорнай паласы».
Дый тыя самыя чынушы
Даўно запэцкаліся ўшчэнт:
Іх акунае ў гразь па вушы
На ўсіх нарадах прэзідэнт.
(Здаецца часам, што гатовы
Парваць наогул на шматкі.)
Яны ж, панурыўшы галовы,
Сядзяць, як ссохлыя пянькі.
Ды пнучца, каб любой цаною
Змог захаваць «нязменны» трон:
Дзе – крыкам-гвалтам, дзе – маною,
Дзе – парушаючы закон.
А ёсць жа і другія «слугі» –
Іх знае кожны і любы.
Без пугі служаць і з-пад пугі –
Яны і слугі, і рабы…
***
Сваім нашчадкам рыюць яму,
А самі, хціўвя, яны,
Спаўняючы чыюсь праграму,
На бойню йдуць, як бараны…

ЕСЦЬ ВОПРОС!

# Почему такие почести в Беларуси Бакиеву?




Несколько лет назад на страницах «Народной Воли» был опубликован материал о том, какую стройку развернул в центре Минска (примерно в трехстах метрах от проспекта Победителей) Курманбек Бакиев. Тот самый, который у себя на родине, в Кыргызстане, был президентом страны, но после апрельской революции 2010 года вынужден был удариться в бега. Для полной картины добавим: тогда в Бишкеке произошли драматические столкновения между властью и оппозицией, вылившиеся в то, что более 80 человек были убиты и сотни получили разные увечья. Произошла смена власти, экс-президента заочно судили, и вердикт для Бакиева оказался очень и очень печальным: 30 лет лишения свободы.

И вполне возможно, что сейчас он отбывал бы суровое наказание за решеткой, но, как известно, ему удалось вовремя покинуть пределы Кыргызстана (позже он расскажет, что прибыл в нашу страну по приглашению Александра Лукашенко, которое он с радостью принял). Тут же за ним по поручению Нурсултана Назарбаева прислали из Казахстана самолет со спецназом на борту и доставили его и членов его семьи в Минск.

Спустя несколько лет Александр Лукашенко поделился подробностями того, как «спасал Бакиева»: *«Все его бросили. Он тогда был на юге Казахстана, с детишками на руках, когда все его бросили… Я ему позвонил и говорю: «Курманбек, что у тебя там?» – и он заплакал. Он сказал по имени: «Саша, ты мне никогда не был другом, но я сегодня фактически в лесу, забери хотя бы детей, спаси хотя бы детей». И я ответил, что заберу вместе с семьей».*

Это было 19 апреля 2010 года. Продолжительное время Бакиев жил в Беларуси в одной из правительственных резиденций. С легкой руки Александра Лукашенко он получил политическое убежище и гражданство нашей страны, а значит, и возможность решать все свои житейские вопросы. Появилась информация, что купил дом, а также ему выделили участок земли для строительства в самом престижном месте столицы.

Известно, что Генеральная прокуратура Кыргызстана неоднократно обращалась к властям Беларуси с запросом о выдаче Курманбека Бакиева и каждый раз получала отказ.

Но не будем вдаваться в подробности прошлого бывшего президента Кыргызстана. Белорусскую общественность больше интересует такой вопрос: почему наша власть так печется о человеке, которого на родине считают страшным преступником, и почему она в упор не слышит мольбы многих соотечественников? За последние десять лет в Минске снесли сотни, а может быть, тысячи частных домов. Сколько людей желали получить в городской черте хотя бы маленький клочок земли для нового строительства, но ответ руководителей горисполкома был один: нет возможности решить вопрос положительно. Даже многодетные семьи, ветераны войны и труда и другие граждане, имеющие большие заслуги, уходили из чиновничьих кабинетов ни с чем.

А вот для Курманбека Бакиева земля нашлась в самом центре Минска. Посмотрите, какой царский дворец он отстроил в Ржавце, что рядом с небезызвестными Дроздами *(на переднем плане фото)*. Появилось сообщение, что в минувшем году Бакиев подарил его дочери. И неслучайно. Переписав на нее шикарнейший особняк, Курманбек обратился к Лукашенко с очередной просьбой. И она была удовлетворена. В марте этого года он получил уже аж два участка общей площадью в 70 соток возле резиденции президента на Минском море, о чем свидетельствуют данные Единого госрегистра недвижимого имущества Беларуси. 45 соток – для ведения личного подсобного хозяйства, 25 соток – для строительства и обслуживания жилого дома.

«За какие заслуги перед нашей страной Бакиеву такие почести?» – один из множества вопросов, которыми на разных сайтах задаются в эти дни белорусы, надеясь если не сейчас, то хоть в ближайшем будущем получить ответы.

**Петр КРАСОВСКИЙ.**

Фото Вадима ЗАМИРОВСКОГО (TUT.BY).

ПО СЛУХАМ И НА САМОМ ДЕЛЕ

*Оппоненты претендента на пост Президента Республики Беларусь Виктора Бабарико распространяют слухи о том, будто на него сделал ставку Кремль. Сам Лукашенко намекнул, что финансирование его может идти из России.*

*Что, интересно, может сказать на сей счет Виктор Дмитриевич Бабарико?*

**Зинаида КРАВЧЕНКО.**

## Виктор БАБАРИКО: «На эту тему я ни с кем не говорил…»



– У меня не было не то что личного контакта – COVID-19 никто не отменял, – но даже телефонного контакта после 12 мая, когда я сделал заявление и начал участвовать в этой кампании. А до 12 мая я на эту тему ни с кем не говорил. Тут мне нечего предъявить, кроме моей честной работы во главе акционеров в течение 25 лет, из которых 20 я был председателем правления…

Мне очень обидно, что тема выборов в Беларуси все время обсуждается с точки зрения того, что белорусы как будто не способны сами сделать выбор. Кто-то всегда кого-то должен поддержать. Вот если кандидата поддержит Кремль – это хорошо, Пекин – может, плохо, Киев – еще как-то…

Я абсолютно убежден, что выборы в Беларуси могут пройти и победит тот, кого поддержит белорусский народ. Я борюсь за поддержку белорусского народа. Если меня поддержит белорусский народ, то любая другая поддержка с востока, с запада, с севера или юга для меня будет положительной.

*(Из интервью DW.)*

КАНФЛІКТ

*Пісьменнік Анатоль Кудласевіч быў у Гродне якраз у той дзень, калі там праходзіў пікет па зборы подпісаў у падтрымку Святланы Ціханоўскай. Разам з іншымі ўдзельнікамі яму давялося рэціравацца з месца падзей «з адной гітарай без чахла і ў беларускай вышыванцы». Інфармацыя адразу ж трапіла ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, членам якога з'яўляецца Кудласевіч. Якая была рэакцыя – аб гэтым у яго Адкрытым лісце.*

# Я чалавек з цвёрдай пазіцыяй і буду актыўна адстойваць свае правы

*Адкрыты ліст старшыні Мінскага гарадскога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі» Міхасю Пазнякову (і да ведама Мікалая Чаргінца)*

Шаноўны Міхась Паўлавіч!

Колькі гадзін таму Вы пазванілі мне па гарадскім тэлефоне, бо мае мабільныя апараты арыштаваны, і цьмяна паведамілі, што перад вамі ляжыць нейкая паперчына і быццам з яе вынікае, што мяне, можа, ужо і «выключылі з вашага саюза». З Вашай гаворкі прасоквала, быццам я ўжо не маю права насіць членскі білет…

Адным словам, я адразу нічога з тэлефоннай размовы не зразумеў. Але цяпер пачало даходзіць. Гэта вы, значыцца, там сабраліся і вырашылі выключыць мяне з Саюза пісьменнікаў Беларусі, маўляў, з Вашых жа слоў, я нейкія законы парушыў… Вы што, Міхась Паўлавіч, юрыст паводле адукацыі, разбіраецеся, дзе, калі і якія законы чалавек парушае? Здзіўляюся. Няўжо на філфаку, які Вы скончылі,ніхто і юрыспрудэнцыю вывучаюць, і адпаведныя корачкі выдаюць?

Я па тэлефоне сказаў: «Рабіце што хочаце, асабіста на Вас, Міхась Паўлавіч, ніякага зла не трымаю». Але… Я патрабую надрукаваць у СМІ фармулёўку, паводле якой быццам бы мяне вырашылі выключыць з Саюза пісьменнікаў Беларусі. І паймённы спіс усіх, хто прагаласаваў за выключэнне, калі такое ўжо адбылося. Па-ціхаму ў вас ніяк не атрымаецца мяне выкінуць.

Ідзём далей, Міхась Паўлавіч! У 2017 годзе, калі я актыўна ўдзельнічаў у «Курапацкай варце», Вы змаглі годна вытрымаць удар і ціск. Колькі тады «шасцёрак» бегала да Вас і патрабавала выкінуць мяне з саюза! Вы, паўтараю, годна вытрымалі ўдар. Але цяпер, відаць, указіўка прыйшла з самага верху, і Вы не змаглі супраціўляцца. Гаспадзь Вам суддзя! Асабіста на Вас я не ў крыўдзе, разумею: сістэма зжырае ўсё жывое, і супрацьстаяць ёй могуць толькі моцныя людзі.

Але нічога з выключэннем мяне з саюза не атрымаецца. Не таму, што я даражу членствам у ім, зусім не, а таму, што я – чалавек з цвёрдай пазіцыяй і буду актыўна адстойваць свае правы. З столькі нацярпеўся з-за таго, што з'яўляюся членам «чаргінцоўскага праўладнага саюза», у які мяне некалі падманам зацягнулі! Менавіта падманам. Было так. Я працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і напісаў невялікі артыкул пра «Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі». Сустрэў мяне Георгій Марчук, пісьменнік і зямляк з Давыд-Гарадка, і прапанаваў ісці ў саюз і заняцца ў ім пытаннямі прапаганды літаратуры. Я з радасцю ўспрыняў такую прапанову. Прыходзім з Марчуком да Чаргінца, ён паслухаў мяне і кажа:

– Пішыце заяву і пераходзьце з таго саюза пісьменнікаў у наш!

А я яму ў адказ:

– Дык я ж увогуле не член саюза.

– Як так?

– А вось так. Я хоць і скончыў Літаратурны інстытут, але не з'яўляюся членам творчага саюза.

– Дык тады рыхтуйце дакументы на ўступленне, і вернемся да гэтай размовы, калі вы станеце членам нашага Саюза пісьменнікаў.

Прайшло каля года, пакуль я падрыхтаваў усе дакументы, і мяне прынялі ў саюз. І што вы думаеце? Заходжу да Чаргінца, а ён адказвае: «Прабачце, але грошай ужо няма на вашу вакансію».

Так я аказаўся падманам уцягнутым у праўладны Саюз пісьменнікаў Беларусі. Мала таго, за гады знаходжання ў ім я нацярпеўся столькі зняваг ад сябровў і незнаёмых мне людзей!.. Даходзіла да таго, што купляілі мае кніжкі з аўтографам і тут жа публічна палілі іх у «бочцы годнасці» на «Курапацкай варце» – толькі таму, што я «член чаргінцоўскага саюза». І вы, Міхась Паўлавіч, хочаце сказаць, што можаце выкінуць мяне з «вашага саюза», як чамадан без ручкі, ці пасунуць, як шафу? Не, хлопцы, гэта я вас усіх пасуну і лічшчу ўвесь саюз, як аўгіевы канюшні, хоць зусім і не прэтэндую на ролю Геракла. Вы не выключыце мяне пад шумок і ціхком, як гэта зрабілі з Эдуардам Скобелевым, які вас стварыў, парадзіў, арганізаваў як інтэлектуальны падмурак для Лукашэнкі, а потым вы ж яго выкінулі з саюза нібыта за антысемітызм. Са мной такое не пройдзе. Я буду біцца за свае правы. Я вас усіх ад гэтага карыта паганю дранаю мяцёлкай. Не, Міхась Паўлавіч, не на таго вы з Чаргінцом нарваліся.

Толькі праз агульны з'езд вы можаце мяне выключыць. Агульным галасаваннем. Не забудзьце мне паведаміць, калі будзе гэты з'езд. Няхай большасць вырашае, хто і якім чынам парушае законы. Няхай большасць вызначыць пазіцыю. Але па-ціхаму ў вас ніяк не атрымаецца.

Мне працей умыць рукі і напісаць заяву аб уступленні ў Саюз беларускіх пісьменнікаў да Пятровіча, але, зноў жа, я – не чамадан і не шафа. Мяне гэта проста абражае як чалавека. Проста так мяне пасунуць не ўдасца. Я хачу адкрыта ў вочы глядзець сапраўдным пісьменнікам з «вашага саюза», якіх, на жаль, адзінкі: Віктару Гардзею, Юрасю Нератку, Янку Лайкову, Міколу Шабовічу, Кастусю Жуку, Казіміру Камейшу, Алесю Камароўскаму, Уладзіміру Карызну і іншым. Я не магу ім здрадзіць. І буду ісці да канца.

Да сустрэчы на агульным з'ездзе.

**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ, пісьменнік.**

БАРОМЕТР

## Грашовы паток з Расіі зменшыўся

Цэнтральны банк Расіі апублікаваў фінансавыя лічбы, якія тычацца трансгранічных аперацый фізічных асоб у першыя месяцы распаўсюджвання каранавіруснай эпідэміі. Дык вось, нерэзідэнты пералічылі ў студзені-сакавіку з Расіі ў Беларусь усяго 10,884 мільёна долараў. Гэта самы нізкі паказчык за апошнія 12 гадоў. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года грашовы паток з Расіі ў нашу краіну знізіўся на 31,8 працэнта.

**Вера КАСЬЯНАВА**

РЭЗАНАНС

# Чаму рабочыя ААТ «Гродна-Азот» на сустрэчы з Лукашэнкам былі без масак?

*Нягледзячы на тое, што з экрана тэлевізара штодня гучаць папярэджанні аб неабходнасці ў месцах масавага скаплення людзей быць у масках, на дзяржаўным узроўні такія парады ігнаруюцца.*

На мінулым тыдні падчас візіту прэзідэнта Лукашэнкі ў Гродна адбылася яго сустрэча з работнікамі ААТ «Гродна-Азот». Сюжэты выпускаў навін паказалі: большасць людзей, якія стаялі, не прытрымліваючыся сацыяльнай дыстанцыі, былі без масак. Хаця СМІ паведамлялі, што сярод супрацоўнікаў прадпрыемства выявіліся выпадкі захворвання на каранавірус, некаторыя знаходзіліся на самаізаляцыі.

### «Няма нарматыўных дакументаў, якія абавязвалі б насіць маскі…»

«Народная Воля» звярнулася за тлумачэннем у медыка-санітарную часць ААТ «Гродна-Азот». Як высветлілася, галоўны ўрач **Віктар Жэздрын** зараз знаходзіцца ў адпачынку. **Людміла Наваграи**, якая яго замяшчае, патлумачыла, што ў іх паліклініцы ўсе ходзяць у масках, а што датычыцца тэрыторыі прадпрыемства, то, аказваецца, няма ніякіх нарматыўных дакументаў, якія абавязвалі б людзей насіць медыцынскія маскі.

Наогул спадарыня Наваграи была здзіўлена пытаннем ад газеты і параіла журналісту пацікавіцца, чаму ў крамах і грамадскім транспарце людзі знаходзяцца без масак. Далейшай размовы не атрымалася – Людміла Наваграи паклала трубку.

### «Таму што гэта не ўяўляе небяспекі…»

Галоўны санітарны ўрач Гродзенскай вобласці **Мікалай Кендыш** пракаментаваў гэтую сітуацыю таксама некалькімі словамі.

*«У нас няма ніякай санітарнай нормы, якая абавязвае насельніцтва хадзіць у масках, мы проста рэкамендуем»*, – зазначыў галоўны санітарны ўрач.

Што датычыцца непасрэдна сустрэчы калектыву ААТ «Гродна-Азот» з прэзідэнтам Лукашэнкам, Мікалай Канстанцінавіч удакладніў, што сустрэча адбывалася на адкрытым паветры, а гэта, маўляў, не ўяўляе ніякай небяспекі заражэння каранавірусам.

*«Іншая справа, што праблема ўзнікае ў закрытых памяшканнях, і многія не хочуць насіць маскі, – падкрэсліваў Мікалай Кендыш. – А менавіта там можа адбывацца найбольш заражэнняў».*

На мой аргумент, што кожны дзень па Беларускім тэлебачанні гучыць сацыяльная рэклама, якая заклікае беларусаў прытрымлівацца санітарна-эпідэміялагічных нормаў, сацыяльнай дыстанцыі, Мікалай Кендыш адказаў, што зараз у нас актуальна іншая рэклама.

*«Расія і Еўропа пацыху выходзяць з сітуацыі каранціну, а наша насельніцтва на гэта глядзіць і адпаведна засцерагаецца*, – сказаў спадар Кендыш. – *Мы рэкамендуем нашаму насельніцтву, як берагчыся ў падобнай сітуацыі, але не абавязваем яго. А чалавек сам прымае рашэнне, як сябе паводзіць».*

Што датычыцца сітуацыі з каранавірусам у Гродне і Гродзенскай вобласці, галоўны санітарны ўрач сказаў «Народнай Волі», што такія пытанні можа каментаваць толькі Міністэрства аховы здароўя, а ён, маўляў, не ўпаўнаважаны.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЗАЯВА

## Дзяржаўны дэпартамент ЗША заклікаў Беларусь паважаць грамадзянскія правы

«Свабодныя і справядлівыя выбары – гэта нешта большае, чым падзеі, што адбываюцца ўласна ў дзень галасавання. Мы заклікаем урад Беларусі забяспечыць роўныя ўмовы для ўсіх, хто жадае ўзяць удзел у выбарах, уключна з рэгістрацыяй кандыдатаў, доступам да СМІ ды іншымі аспектамі кампаніі, – *гаворыцца ў лісце Дзяржаўнага дэпартамента ЗША, адрасаваным уладам Беларусі.* – Павага да фундаментальных свабод, у тым ліку свабоды мірных сходаў, свабоды слова і свабоды асацыяцый, мае вырашальнае значэнне для ўмацавання ўзаемаадносін паміж ЗША і Беларуссю».

БАКУ–МИНСК

## Еще один танкер с азербайджанской нефтью для Беларуси



*«Танкер с грузом в 85–90 тысяч тонн нефти должен отправиться в путь 25–26 июня из грузинского порта Супса. Прибытия груза ожидаем в конце месяца»,* – уточнил пресс-секретарь концерна «Белнефтехим» Александр Тищенко.

С января по апрель текущего года азербайджанская компания SOCAR отправила в Беларусь 2,05 миллиона баррелей азербайджанской и 1,78 миллиона баррелей неазербайджанской нефти.

Всего в текущем году в Беларусь будет поставлено 1 миллион тонн нефти из Азербайджана.

ПРОБЛЕМА!

## Миллиард человек в ближайшие 50 лет могут стать «климатическими мигрантами»

### *Если не будет глобальных перемен в борьбе с потеплением*

С повышением среднегодовой температуры на Земле на 1 градус Цельсия не менее миллиарда человек будут вынуждены адаптироваться или мигрировать, чтобы оставаться в климатических условиях, которые лучше всего подходят для сельского хозяйства, животноводства и работы на открытом воздухе. К таким выводам пришли ученые на основе анализа, охватывающего период последних 6 тысяч лет. Статья, рассказывающая об исследовании, вышла в журнале *Proceedings of the National Academy of Sciences.*

Климат Земли менялся на протяжении всей ее истории. Только за последние 650 тысяч лет планета пережила шесть периодов оледенений и «оттепелей». Эти медленные, но масштабные смены климата зависят от множества сложных процессов, но главный из них – это колебания земной орбиты, которые называются циклами Миланковича, в результате которых меняется количество солнечного света, достигающего разных областей планеты.

Однако современная климатическая эпоха отличается от предыдущих. Нынешняя тенденция потепления имеет особое значение, так как температура повышается невероятно быстро – начиная с 1975 года со скоростью примерно 0,15–0,20 градуса Цельсия за десятилетие. С 1880 года средняя температура Земли выросла на один градус Цельсия. Это довольно много: уже сейчас мы видим повышение уровня мирового океана, уменьшение площади ледяного покрова Земли и большее число экстремальных погодных явлений.

Причины нынешнего изменения климата сейчас уже хорошо понятны, но этого пока нельзя сказать о его экономических и социальных последствиях, например, о масштабе будущей вынужденной миграции. Существует множество независимых оценок, однако до сих пор нет единого общепринятого способа подсчитать число людей, которым понадобится переселиться с насиженных мест в результате потепления.

Например, по оценкам международного Центра по исследованию внутренней миграции (IDMC), уже в 2018 году 17,2 миллиона человек были вынуждены покинуть свои дома из-за бедствий, которые негативно сказались на их жизни. Всемирный банк предсказывает, что, если правительства стран не будут принимать серьезных мер для изменения ситуации, к 2050 году число внутренних климатических мигрантов в трех регионах мира достигнет 143 миллионов человек. Изменения затронут и экономику: исследование, проведенное компанией *McKinsey Global Institute*, показывает, что повышение среднегодовой температуры планеты повлияет на трудоспособность работников, инфраструктуру, пищевые ресурсы и природные богатства.

#### Потепление сдвинет «экологическую нишу» человека и вызовет массовую миграцию

Исследование опиралось на собранную нидерландскими экологами историческую базу данных, в которой содержится информация о населении и сельском хозяйстве на всей планете за 12 тысяч лет. В ней представлены все имеющиеся данные о выращиваемых культурных растениях, распределении скота, валовом внутреннем продукте, прошлых и нынешних значениях среднегодовой температуры, количестве осадков и другая подобная статистика. Именно на основе этих данных ученые выделили те зоны, которые можно считать исторически оптимальными для человека ареалом обитания.

Как выяснилось, в течение вот уже шести тысячелетий большинство людей живет в одной и той же узкой климатической полосе, где среднегодовая температура составляет около 11–15 градусов Цельсия. Текущее производство сельскохозяйственных культур и домашнего скота в значительной степени ограничено теми же условиями. Другой комфортный для человечества температурный режим – от 20 до 25 градусов – господствует в Южной Азии, находящейся под влиянием индийских муссонов. На этот климат пришелся второй по высоте пик плотности населения. Безусловно, часть людей живет и в более холодных, и в более жарких регионах – человечество к настоящему моменту расселилось от северного до южного полюса. Однако численность населения во всех остальных областях, помимо этих двух, заметно меньше, а условия существования там несколько жестче.

Исследователи построили модель, которая показывает, как будет меняться распределение населения Земли в течение следующих 50 лет при сохранении темпов роста его численности и сегодняшних температурных тенденций. В основе их расчетов лежал сценарий, который не предусматривает каких-либо существенных изменений в международной климатической политике. Сегодня некоторые эксперты считают такой сценарий слишком пессимистичным, так как он не учитывает предпринимаемые усилия по сокращению выбросов парниковых газов. Но если все-таки принять, что ситуация существенно не изменится, то климатическая ниша человечества может сдвинуться сильнее, чем когда-либо за последние 6 тысяч лет.

По расчетам авторов новой работы, в ближайшие 50 лет от одного до 3,5 миллиарда человек окажутся в районах, где среднегодовая температура будет выше 29 градусов Цельсия. Сегодня такой климат наблюдается лишь на 0,8% земной поверхности, в основном в районе Сахары, но к 2070 году он может распространиться уже на 19% территорий. И так как условия ухудшатся в одних частях планеты, но улучшатся в других, то, как считают ученые, это подтолкнет людей к миграции. Если численность населения планеты останется распределенной по температуре таким же образом, как и в течение последних тысячелетий, то около 30% людей (это максимальная оценка) будут вынуждены перебраться в другие районы.

Вопрос о том, как будет развиваться экономика в районах, вытесненных за границы комфортных условий для сельского хозяйства и скотоводства, также остается открытым. Поэтому ученые говорят о том, что их работу нельзя рассматривать как предсказание миграции – скорее это предупреждение о возможных изменениях.

**Кристина УЛАСОВИЧ.**

*(«Медуза».)*

СЛЫШАЛИ?

## ЕС готовится к открытию внешних границ: жителей США и России пока не пустят

Евросоюз после открытия внешних границ может временно не принимать жителей ряда стран, в числе которых Россия и США. Об этом сообщает издание *New York Times.*

Еврокомиссия ожидает от всех государств-членов союза открытия внутренних границ до 1 июля. Точное решение об открытии внешних границ ЕС до сих пор не принято, продолжается активное обсуждение.

Как сообщает издание, представители Евросоюза в настоящее время работают над списком стран, жителей которых пустят в ЕС после снятия введенных ранее карантинных ограничений. Решение будет приниматься с учетом того, как иностранные государства справляются с коронавирусной инфекцией.

Так, отнесение страны к списку зависит от данных о случаях заражения COVID-19 за последние две недели в расчете на 100 тысяч человек: по последним подсчетам, в ЕС зафиксировано 16 случаев заражения на 100 тысяч человек.

В распоряжении *New York Times* оказались черновые варианты списков: в одном из них содержатся только страны с показателем ниже европейского, вторая версия включает большее число государств, допуская до 20 случаев.

Отмечается, что гражданам США не намерены разрешать въезд в ближайшее время (показатель там – 107 зараженных на 100 тысяч человек). Издание также приводит статистику по другим странам, путешественников из которых могут сперва не пускать в Евросоюз: в России упомянутая цифра достигает 80 случаев, в Бразилии – 190.

Сообщается также, что окончательный список будет представлен в качестве рекомендаций в ближайшее время, список будет актуализироваться каждые две недели с учетом эпидемиологической обстановки в мире.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## Центральной темой председательства ФРГ в Совете ЕС станет пандемия

Правящая коалиция утвердила повестку председательства Германии в Совете ЕС, которое начинается 1 июля. Оно пройдет под знаком коронавируса.

Партии, входящие в правящую в Германии коалицию, приняли решение посвятить начинающееся 1 июля председательство Германии в Совете Европейского Союза борьбе с пандемией коронавируса. Соответствующая договоренность была достигнута в понедельник,22 июня в Берлине между представителями Христианско-демократического союза (ХДС), Христианско-социального союза (ХСС) и Социал-демократической партией Германии (СДПГ).

*«Пандемия COVID-19 ставит Евросоюз перед судьбоносным вызовом»,* – говорится в совместном заявлении по итогам заседания. Германия, согласно документу, исполняя роль председателя Совета ЕС, будет *«прикладывать все силы для того, чтобы сообща и думая о будущем справиться с этой задачей и вновь сделать Европу сильной».*

Ранее глава германского правительства Ангела Меркель заявила, что видит в председательстве ФРГ в Совете ЕС возможность придать новый импульс отношениям с Россией. Канцлер отнесла к возможным темам для обсуждений с Москвой ситуацию в Ливии и Сирии, защиту климата и глобальное здравоохранение.

Ожидается, что немецкий Кабинет министров представит утвержденную программу председательства в Совете ЕС 24 июня. Государство-председатель Совета Евросоюза избирается на шесть месяцев. Германия, в последний раз занимавшая этот пост в 2007 году, 1 июля по ротации сменит на нем Хорватию. А с 1 января 2021 года председателем Совета ЕС станет Португалия.

## Самые дорогие и самые дешевые университетские города

Не все студенты готовы жить в общежитии, поэтому многим приходится снимать квартиры. Сколько стоят квадратные метры жилья в различных университетских городах Германии, исследовал портал недвижимости *Zoopla.* Как показало исследование, самым дорогим городом оказался Мюнхен. За один квадратный метр жилья там придется заплатить около 19,70 евро. На втором месте находится Ингольштадт, где цены достигают 15,20 евро за квадратный метр. Третье место в рейтинге занимает Франкфурт-на-Майне – 14,10 евро за «квадрат». Что касается доступного жилья, то самые приемлемые цены оказались в Хемнице (5,20 евро за м²), Гельзенкирхене (6 евро за м²), Коттбусе и Магдебурге (6,20 евро за м²).



**Обзор цен на аренду жилья в университетских городах Германии (цена за квадратный метр в евро)**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аахен – 10,30 | Грайфсвальд – 9,20 | Кассель – 8,80 | Пассау – 10,90 |
| Аусбург – 9,80 | Галле – 6,60 | Киль – 8,50 | Потсдам – 12,00 |
| Бамберг – 11,00 | Гамбург – 11,70 | Кобленц – 10,00 | Регенсбург – 12,30 |
| Байройт – 11,10 | Ганновер – 9,20 | Кельн – 11,90 | Росток – 6,40 |
| Берлин – 11,00 | Гейдельберг – 12,20 | Констанц – 12,20 | Саарбрюккен – 9,10 |
| Билефельд – 8,50 | Дармштадт – 12,00 | Лейпциг – 6,80 | Трир – 10,80 |
| Бохум – 8,20 | Дортмунд – 8,40 | Магдебург – 6,20 | Тюбинген – 12,20 |
| Бонн – 10,70 | Дрезден – 7,80 | Майнц – 12,00 | Ульм – 11,40 |
| Брауншвейг – 9,80 | Дуйсбург – 6,60 | Манхейм – 10,70 | Франкфурт-на-Майне – 14,10 |
| Бремен – 9,50 | Дюссельдорф – 10,70 | Марбург – 11,80 | Фрейбург – 13,00 |
| Висбаден – 11,40 | Зиген – 9,90 | Мюнхен – 19,70 | Хемниц – 5,20 |
| Вупперталь – 6,70 | Ингольштадт – 15,20 | Мюнстер – 11,50 | Хильдесхайм – 7,80 |
| Вюрцбург – 10,60 | Изерлон – 6,40 | Нюрнберг – 10,80 | Штутгарт – 12,50 |
| Гельзенкирхен – 6,00 | Коттбус – 6,20 | Ольденбург – 9,50 | Эрфурт – 7,80 |
| Гиссен – 11,20 | Кайзерслаутерн – 8,50 | Оснабрюк – 9,20 | Эрланген – 13,50 |
| Геттинген – 10,90 | Карлсруэ – 13,00 | Падерборн – 8,30 | Эссен – 7,90 |

## Архив «Штази» – величайшая загадка Германии

После падения Берлинской стены многие жители Германии подумали, что «Штази» ушла в историю. Однако новое поколение немцев желает знать, что делала с их родителями восточногерманская тайная полиция. К концу ноября прошлого года 46.354 гражданина Германии подали заявки на доступ к личным делам своих родственников, которые были заведены сотрудниками «Штази». Это на 234 заявления больше, чем годом ранее.

*«Это хорошо, что люди имеют доступ к своим делам или делам родственников после стольких лет,* – говорит **Роланд Ян**, сотрудник Федерального ведомства по изучению архивов «Штази». – *Очень важно, чтобы новое поколение знало свою историю».*

По словам Яна, Германская Демократическая Республика и ее спецслужбы продолжали существовать, даже когда рухнула Берлинская стена. В течение нескольких недель офицеры «Штази» уничтожали документы, которые могли разоблачить их агентов за границей и стать причиной тюремного заключения. Из-за неисправности бумагорезательных машин сотрудникам пришлось рвать бумаги вручную и складывать их в мешки. Позже планировалось их сжечь или уничтожить с помощью химических веществ. Однако этого не произошло, и архивы «Штази» оказались в распоряжении новых властей.

*«Штази – это головоломка, решить которую мы все еще не можем,* – говорит Ян. – *Для этого нам нужно собрать воедино около 600 миллионов обрывков бумаги».*

Некоторые немцы с помощью файлов «Штази» пытаются отыскать необходимую информацию о своих родных. Большинство историй рассказывают о сотрудниках «Штази», которые врывались посреди ночи в дома и забирали их жителей. Куда именно пропадали люди и что с ними произошло, все еще остается загадкой.

## Сколько зарабатывает немецкий дипломат?



Профессия дипломата очень престижная, но в то же время и ответственная. Эти люди представляют интересы своей страны в других государствах, и часто им приходится длительное время жить за границей.

Германия имеет 230 представительств по всему миру. Срок службы дипломатов на местах составляет 3–4 года. Их зарплата зависит от нескольких факторов: страны, ранга, семейного положения и, конечно, от общей ситуации в стране, где они работают.

К примеру, служащий среднего ранга (секретарь в консульстве) относится к категории А9 и получает базовый доход в размере 2700–3500 евро в месяц (брутто). Дипломатический представитель высшего ранга относится к категории А11. Его базовый доход составляет 3300–4370 евро в месяц (брутто). Дипломаты наивысшего ранга относятся к категории А15 и получают от 5220–6560 евро в месяц до вычета налогов.

Зарплата посла зависит от категории. Например, если речь идет о посольстве какой-нибудь страны в Азии, то это категория А15, а если в Вашингтоне (США), то В9. В любом случае базовый доход составляет 11.240 евро (брутто).

Кроме базового дохода послы получают различные надбавки, которые зависят в основном от уровня опасности места работы. Чем выше уровень – тем выше надбавка. Например, самые высокие надбавки у послов в зоне 20-го уровня – наивысшего. На первом уровне размер надбавок составляет примерно 755 евро, а на 20-м – 5500. Все надбавки не облагаются налогом. К странам 20-го уровня относятся Афганистан, Эритрея, Ирак.

Любопытно, что дипломаты, состоящие в браке, получают на 40 процентов больше.

РЭБУС

# У чым Баскаў і Рыжанкоў папракаюць вядомых спартсменаў?

Днямі адвакатамі беларускіх улад выступілі генеральны дырэктар хакейнага мінскага «Дынама» Дзмітрый Баскаў і старшыня Беларускай федэрацыі баскетбола, які да таго ж яшчэ і намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Максім Рыжанкоў.

Абодвух абурыла тое, што некаторыя вядомыя спартсмены не падтрымліваюць Лукашэнку, выказаюцца за іншых прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта краіны, пры гэтым выступаюць за свабодныя і празрыстыя выбары.

*«Некаторыя прадстаўнікі спартыўнай эліты дазваляюць сабе крытычныя выказванні ў адрас дзяржавы, якая іх выхавала і дазволіла заставацца ў спорце, ні ў чым не маючы патрэбы,* – напісаў у адкрытым лісце да грамадскасці Дзмітрый Баскаў. – *Варта адзначыць, што гэтыя подлыя рэплікі гучаць у асноўным ад тых, чые перамогі даўно ў мінулым і хто наўрад ці сёння складзе канкурэнцыю новым пакаленням, а таму не мае права разлічваць на падтрымку таго, пра каго крытычна выказваецца, але ж гэта не адмяняе элементарнай падзякі за доўгія гады ў прафесіі.*

*...Калі б не прэзідэнт і ўмовы, якія створаны, наўрад ці мы мелі столькі спартыўных школ, стадыёнаў, лядовых арэн па ўсёй краіне, а як вынік – беларускі сцяг на стольніх сусветных п'едэсталах».*

Аказалася, што «*подлыя рэплікі*» дазволі сабе такія палітычна неадукаваныя спартсмены, *«чые перамогі даўно ў мінулым»*, як чэмпіёнка свету па фрыстайле Аляксандра Раманоўская, баскетбаліст Мікіта Мешчаракоў, лёгкаатлетка Надзея Астапчук, баксёр Кірыл Рэліх, баскетбалістка Алена Леўчанка і іншыя.

Дарэчы, калі зірнуць на хакейную кар'еру Баскава, які гуляў у чэмпіянаце Беларусі (а многія балельшчыкі нават і прозвішча такога не ведаюць), то да дасягненняў той жа Раманоўскай ці Леўчанка Дзмітрыю Анатольевічу, прабачце, як да Кітая на карачках.

Але ж зараз Дзмітрый Баскаў – вядомы чалавек. Быў трэнерам Лукашэнкі-малодшага, зараз трэніруе прэзідэнцкую каманду, якой сёння, відаць, няма роўных у свеце. Мае добрую пасаду генеральнага дырэктара мінскага «Дынама», якое пры ім апусцілася на такое дно, што далей ужо няма куды.

Той жа Лукашэнка не так даўно заўважыў, што з такой гульнёй, магчыма, наогул варта разагнаць «Дынама», і нават галоўны спонсар – «Беларускалій» – спыніў фінансаванне. Але, кажуць, кіраўніцтва прадпрыемства крыху парыпела соллю на зубах і зноў вырашыла спансіраваць клуб. Ды і як не спансіраваць, калі генеральны дырэктар мае такую правільную пазіцыю?

Максім Рыжанкоў таксама правёў сярод баскетбалістаў зборнай Беларусі палітінфармацыю: *«Ні ў аднаго з вас няма ні фінансавых, ні бытавых праблем. Вы ўсім забяспечаны, дзякуючы той палітыцы, якая рэалізуецца ў нашай краіне. І пэўным спартсменам, у тым ліку і былым, я параіў бы менавіта пра гэта падумаць, перш чым паказушна і безадказна разважаць пра рэчы, далёкія ад іх разумення».*

Пра якія ж рэчы, «*далёкія ад іх разумення*», казалі спартсмены?

*Алена Леўчанка змясціла ў «Інстаграме» фота затрыманага патэнцыяльнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду Віктара Бабарыкі і напісала: «Я за сумленныя выбары! Вярніце нам гэтую магчымасць!»*

Мікіта Мешчаракоў зазначыў, што калі «*кандыдатаў садзяць за краты, людзям затыкаюць рот, то гэта гульня без правіл, і гэта не Беларусь будучыні*».

*Дзеючая чэмпіёнка свету па фрыстайле Аляксандра Раманоўская выказалася больш вобразна: «Аднойчы я брала ўдзел у Алімпійскіх гульнях, у якіх ад справядлівага судзейства была адна назва. Цяпер я назіраю ў сваёй краіне выбары, якія язык не паварочваецца назваць сумленнымі і справядлівымі. У гэтым свеце наогул такія рэчы маюць права на існаванне ці гэта пусты гук?»*

Астатнія выказваліся ў гэтым жа рэчышчы – за гульню па правілах! З абсалютна роўнымі ўмовамі для ўсіх. Без запалохвання, збіцця людзей і крымінальных спраў. З участковымі камісіямі, у якіх галасы будуць лічыць не толькі «палітычна надзейныя».

Вось на што пакрыўдзіліся Рыжанкоў і Баскаў. Ім, відаць, ніяк не зразумець, навошта гэтым спартсменам і насамрэч свабодныя і сумленныя выбары, калі яны і так «усім забяспечаны». Як і тое, што не за прэзідэнцкія грошы пабудаваны спартыўныя комплексы, лядовыя арэны і стадыёны, утрымліваюцца спартыўныя школы, а за грошы народа, беларускіх падаткаплацельшчыкаў.

І не трэба блытаць палітыку, правы чалавека, свабоду слова з палітыканствам, аўтарытарнай сістэмай кіравання дзяржавай.

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Аляксандр МАРЧАНКА:

# «Грошы пайшлі!»

*Футбалістам «Гарадзеі» пасля публікацый у СМІ, у тым ліку і ў «Народнай Волі», пачалі плаціць заробак.*

Нагадаем, што асноўным спонсарам клуба выступае Гарадзейскі цукровы камбінат, але гаспадаром прадпрыемства з'яўляецца назіральны савет канцэрна «Белдзяржхарчпрам», які прыняў рашэнне спыніць дзеянне раней заключаных дамоў.

Паўплывала, безумоўна, на сітуацыю і затрыманне ў студзені гэтага года кіраўнікоў цукровых заводаў, сярод якіх быў і кіраўнік Гарадзейскага камбіната Міхаіл Крыштаповіч.

Апошні раз ігракі, трэнеры і іншыя спецыялісты атрымлівалі грошы за люты. Каманда гуляла, што называецца, за ідэю, а кіраўніцтва клуба было ўжо гатова яго расфарміраваць.

Але пасля рэзанансу, які пайшоў у СМІ, сітуацыя вырашылася станоўча для «Гарадзеі».

Спачатку стала вядома, што старшыня Мінскага аблвыканкама Аляксандр Турчын ўзгадніў з урадам краіны пытанне фінансавай падтрымкі клуба, а праз нейкі час паступіла інфармацыя: «Гарадзея» заключыла дамову на аказанне спонсарскай дапамогі з Гарадзейскім цукровым камбінатам.

– Безумоўна, вельмі рады, што ўсё так вырашылася, бо мы былі, што называецца, на мяжы адчаю, – паведаміў «Народнай Волі» генеральны дырэктар ФК «Гарадзея» **Аляксандр МАРЧАНКА**. – І мы грукаліся ва ўсе дзверы, і сродкі масавай інфармацыі стварылі дастатковы рэзананс.




Зараз падпісана дамова з цукровым камбінатам, якую павінны былі падпісаць яшчэ на пачатку года. Усе пытанні ўзгоднены, грошы пайшлі на рахунак.

**– Калі клуб разлічыцца з футбалістамі па даўгах?**

– Ужо выплацілі заробкі за сакавік і красавік. Мяркую, да ліпеня наогул закрыем пытанне па запазычанасцях.

**– Як адбілася ўся гэта сітуацыя на гульні каманды?**

– Складана было ў псіхалагічным плане, хаця ёсць меркаванне, што самы злы сапернік – гэта галодны. Мы верылі, што грошы знойдуцца, але на сто працэнтаў гарантаваць гэта ніхто не мог. Самае галоўнае зараз – клуб не знікне і працягне існаванне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГЛЯДЗІЦЕ!

# Каханне на могілках і папялішчах

*Пераможца ў пяці намінацыях першай Нацыянальнай тэатральнай прэміі спектакль «Не мой» паводле аповесці Алеся Адамовіча вяртаецца.*

Любімы многімі гледачамі Купалаўскага тэатра спектакль «Не мой» ізноў пройдзе на сцэне тэатра. Паказы адбудуцца 30 чэрвеня і 2 ліпеня. Адначасова ў Камінная зале тэатра пройдзе дакументальная выстава з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры «Алесь Адамовіч...».

«Не мой» – адна са знакавых работ Купалаўскага тэатра за апошняе дзесяцігоддзе. Спектакль Аляксандра Гарцуева паводле аповесці Алеся Адамовіча «Нямко» ў сцэнаграфіі Барыса Герлавана стаў, напэўна, самай моцнай і кранальнай пастаноўкай пра вайну. У цэнтры сюжэта – беларуская дзяўчына Паліна, якая ратуе нямецкага салдата Франца, выдаючы яго за свайго нямога брата. На могілках і папялішчах нараджаецца каханне – здаецца, гэта адзінае, што дазваляе выжыць у нечалавечых абставінах.

Спектакль стаў адным з першых лаўрэатаў Нацыянальнай тэатральнай прэміі Беларусі і атрымаў узнагароды ў намінацыях «Лепшы спектакль года», «Лепшая жаночая роля» (Святлана Анікей), «Лепшая сучасная пастаноўка паводле твораў беларускіх аўтараў» (рэжысёр Аляксандр Гарцуеў, інсцэніроўка Алены Калюновай), «Лепшая праца мастака-пастаноўшчыка» (Барыс Герлаван), «Лепшае музычнае афармленне» (Алег Хадоска).

«Не мой» таксама атрымаў Гран-пры XI Міжнароднага фестывалю «Славянскія сустрэчы», прыз за лепшую сцэнаграфію (Барыс Герлаван) і за лепшы акцёрскі дуэт (Аляксандр Казела і Валянціна Гарцуева) (май 2013 года).

Аднаўленне спектакля прымеркавана да 75-годдзя Вялікай Перамогі. Адмыслова для гэтага разам з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры ў Камінная зале тэатра ўпершыню будзе прадстаўлена ўнікальная выстава з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. «Алесь Адамовіч...». На экспазіцыі будзе прадстаўлены жыццёвы і творчы шлях беларускага пісьменніка-дакументаліста, які ўсю сваю працу прысвяціў даследаванню лёсаў людзей вайны.

РЕЗОНАНС

Иван ВАБИЩЕВИЧ:

# «Давайте помнить о здравом смысле, холодном рассудке и честности перед собой!»

*Артист и байкер объяснил, почему в этом году обязательно пойдет на президентские выборы.*



– Я горжусь людьми, которые осознали, что мы не «народец», а народ! – *говорит шоумен*. – Я горжусь людьми, которые перестали и перестают бояться! Именно это время доказало, что Людей с большой буквы значительно больше, чем нелюдей.

Я горжусь теми, кто, невзирая на препятствия и сложности, кормил, помогал и продолжает помогать медикам.

Горжусь медиками, которые, несмотря на все трудности и «условную» поддержку государства, продолжают лечить, спасать людей и не щадить себя.

Горжусь теми, кто не побоялся сказать «нет» даже при угрозе увольнения. Оказалось, что всех нельзя уволить или посадить.

Горжусь тем, что многие уже сделали свой выбор.

Горжусь тем, что появляется всё больше людей, которые начали думать и задумались. Людей, которые стали честными перед собой!

Вот это я называю честностью! Когда понимаешь, что по-другому не можешь.

Если каждый будет честен перед собой, тогда все получится!

Я пойду на выборы. Я проголосую так, как считаю нужным, честно. И я верю, что каждый так сделает. Вот здесь безучастия точно нельзя допустить.

И я верю, что у всех, кто будет собирать, считать и оглашать результаты, тоже включится честность! Хотя бы ненадолго. Это тот случай, когда всё зависит от каждого из нас!

Картинка нарисовалась идеальная... Но я верю, что мы вместе можем к ней приблизиться. И тогда действительно все будет по-честному!

А что по поводу дел последних дней и действий властей... По-моему, это страх. А тот, кто боится, не может вести за собой людей. Страх заразителен. Я даже не буду вдаваться в подробности, кто боится больше: тот, кто повыше, или тот, кто пониже... Это уже неважно.

Перемены нужны! Только давайте помнить о здравом смысле, холодном рассудке и честности перед собой!

ПОЗИЦИЯ

Екатерина ДОМАНЬКОВА:

# «Хочу чувствовать себя в безопасности, когда стою в очереди или иду в магазин»

*Всемирно известная модель и мать троих детей Екатерина Доманькова отреагировала на события, которые в последние дни происходят в Минске.*

«Я всегда считала себя аполитичным человеком и не видела в своем взаимодействии с подписчиками необходимости поднимать подобные темы, – *написала известная белоруска в «Инстаграме»*. – Но сегодня другой день. Сегодня день, когда любой человек, в ДНК которого гордыми ровными буквами написано «Беларусь», просыпается и засыпает с мыслями, болью, переживаниями о своей стране и своих соотечественниках. И я не исключение.

Я, как и все белорусы, хочу чувствовать себя в безопасности, когда стою в очереди или иду в магазин. Я хочу быть уверенной в том, что ни меня, ни моих близких, ни одного человека не схватят, если он не преступник. Я знаю, что те, кто должен защищать, не должны нападать. Знаю, что те, кто хочет голосовать, должны иметь возможность голосовать. Что те, кто хочет реализовывать свои конституционные права, должны иметь возможность их реализовать.

Я хочу этой правды для себя. Для своих детей. И для всей нашей Беларуси».



АСАБІСТАЕ

# Прыватнае жыццё Уладзіміра Арлова падчас пандэміі

**– Спадар Уладзімір, як пандэмія паўплывала асабіста на вас, знакамітага пісьменніка?**

– Самаізаляцыю імкнуся трымаць, але 100-працэнтнай, зразумела, не атрымліваецца. Вось толькі што паставіў подпіс за суседку, якая спрабуе трапіць у акруговую выбарчую камісію. Сёння як гісторык кансультаваў у майстэрні двух знаёмых скульптараў. Заўтра пайду на пошту, бо калега з Ізраіля даслаў пасылку з выдатнай гарбатай.

Вядома, усё гэта ў масцы, якую надзеў яшчэ 25 сакавіка, калі браў удзел у Свабодаўскім наўпроставым эфіры.

Што яшчэ змянілася? Не хапае басейна, дзе некалі два разы на тыдзень праплываў свае паўтара кіламетра, складаючы вершы альбо дыялогі для прозы.

Але шмат хаджу. Пачынаў з шасці кіламетраў на дзень, цяпер бывае і дзесяць. Падлічыў, што ўжо схадзіў у Полацк, вярнуўся, зноў схадзіў, а цяпер вяртаюся. Не ведаю, колькі так давядзецца хадзіць, пакуль зноў не траплю ў бацькоўскую кватэру, не абдыму сястру Таццяну, не прыйду на родныя магілы, не дам нырца ў возера Люхава...



**Уладзімір Арлоў на варце ў Курапатах каля рэстарана «Поедем поедим».**

Цяпер, у спёку, гуляю пераважна позна ўвечары, а то і ўначы. Гляджу на неба. Калі яно яснае, над Мінскам можна пабачыць не толькі месяц, але і колькі самых смелых зорак. Тады думаю пра зорнае неба нада мной і маральны закон ува мне. Альбо наадварот: пра зорнае неба ўва мне...

Бываюць на гэтых доўгіх прагулянках невялікія прыгоды. Ужо тройчы сустракаў гарадскую куніцу-беладушку. Адразу светла згадваў былога серабранкаўскага суседа – філосафа Уладзіміра Конана, з якім на ягоным апошнім паверсе шматпавярховіка пілі айчынны джын «Ведрыч», і я слухаў ягоныя імправізаваныя лекцыі, у якіх ён, як Гільгамеш, уздымаўся ў касмічныя вышыні. Потым ішлі гуляць усцяж канала, і да нас падбягала адна з тамтэйшых беладушак, якую спадар Уладзімір – нечуваная рэч! – здолеў прыручыць. А раптам і ў мяне атрымаецца?

Вядома, складаю на гэтых начных шпацыроўках і іншыя планы. Напрыклад, абдумваю, як не перапыніць сёлета наш ужо шматгадовы праект-экспедыцыю «Архіпелаг Беларусь» – летнія паездкі з сябрамі на беларускія выспы.

Наогул – хоць далёка не ўсе гэта яшчэ ўсведамляюць – мы трапілі ў экстрэмальную сітуацыю з непрадказальным, адкрытым, адкладзеным немаведама на колькі часу фіналам. У такім становішчы адчыняюцца новыя вокны ў рэальнасць, зусім новыя сэнсы.

**– Ці баіцеся вы захварэць?**

– Трэба не баяцца, а берагчыся.

**– Ці змяніла пандэмія вашы густы чытача?**

– Змяніць чытацкія густы і прыярытэты, калі яны складваліся дзесяцігоддзямі, ніякая пандэмія не здольна. Як і раней, чытаю адразу некалькі кніг. Цяпер перачытваю «Досведы» Мішэля Мантэня адначасова з «Падарожжам на край ночы» Люі-Фэрдынанда Сэліна. Гэты бязлітасны раман, які некалі называлі самым скандальным у французскай літаратуры, чытаю – раней неяк не даходзілі рукі – упершыню і з асалодаю. Кніга з тых, якую раптам адкладаеш, бо яна нараджае ў табе ўласныя сюжэты і вобразы. Такія кнігі для мяне – найлепшыя.

Напэўна, пад уздзеяннем апошняй поўні зняў з кніжнай паліцы «Дзяржавы і імперыі Месяца» Сірано дэ Бержэрака. Набыў днямі «Апошнюю кнігу пана А.» Альгерда Бахарэвіча. Цікава, як успрымецца гэты сучасны «Дэкамерон» у час сучаснай чумы.

**– Ці змяніўся ў апошнія месяцы ваш рацыён і кухарскія перавагі? Я, напрыклад, заўважыў, што ў часы ізаляцыі стаў есці больш бульбы, але лішняй вагі не набраў. А ў вас што?**

– Рацыён кардынальна не змяніўся, хіба што за тры месяцы я з'еў ужо, відаць, некалькі кілаграмаў цытрынаў ды імберцу і ўвесь час пахну часнаком. Сябар-паляўнічы часцей падкідвае дзічыны. Кажуць, таксама добра ўплывае на імунітэт.

Але сумую часам па бараніне ў цесце з меню кавярні «У Янкі», па грузінскіх стравах – хачапуры, хінкалі, кучмачы. Па келіху-другому чырвонага віна ў кампаніі з сябрамі.

## «Не выключаю ўвядзення надзвычайнага становішча»

**– Ці сочыце вы за выбарчай кампаніяй у Беларусі? Ці паставілі ўжо за некага свой подпіс?**

– Вядома, сачу. За каго паставіў подпіс, казаць не буду, бо цаню мужнасць усіх, хто насамрэч зрабіў сумленныя асэнсаваныя крокі і пакутуе за гэта. Больш пэўна пра ўсё можна будзе гаварыць, калі з'явяцца праграмы кандыдатаў. Альбо не з'явяцца, бо іх не зарэгіструюць, нягледзячы на рэальна сабраныя подпісы.

Аднак сітуацыя мяняецца кожны дзень, і, можа стацца, ужо заўтра зменіцца прынцыпова. Не выключаю ўвядзення надзвычайнага становішча.

**– Калі ў Беларусі могуць, на вашу думку, адбыцца палітычныя змены?**

– Я разумею, што кожны, хто адважна і, спадзяюся, адказна ўступіў у перадвыбарную гонку, павінен – становішча абавязвае – рабіць аптымістычныя заявы, але я тут магу пагадзіцца толькі з адным: грамадства, бясспрэчна, увачавідкі робіцца іншым, і гэта вяшчуе перамены.

Калі яны адбудуцца, сказаць пакуль надзвычай складана. Шмат каго, відаць, расчарую, калі скажу, што не ў гэтым жніўні.

Але вось што галоўнае: гэтыя перамены мусяць адбывацца ў незалежнай дзяржаве. Незалежнасць мы павінны быць гатовы бараніць любымі сродкамі. Калі кандыдат у прэзідэнты з гэтым не згодны – гэта не мой кандыдат.

(З інтэрв'ю Радыё Свабода.)

